ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЛОК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

## № 20–21
(35—36)

ВЕРАСЕНЬ

ПАРТЫЙНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1933

# I. ЯК ПРАЦАВАЛА НАША ПРАМЫСЛОВАСЦЬ У ПЕРШЫМ ПАЎГОДДЗІ

## Чаго мы дабіліся ў гэтым годзе ў абсягу прамысловасці

Пад кіраўніцтвам нашай партыі на чале з т. **Сталіным,** у рэзультаце гіганцкіх намаганняў рабочых мас нашай краіны, мы дабіліся таго, што перавялі «Нашу краіну з яе адсталай, часам сярэднявяковай тэхнікай на рэльсы новай, сучаснай тэхнікі» **(Сталін).** На велізарных прасторах Совецкага саюза— у гарадах і сёлах, у адсталых у недалёкім мінулым нацыянальных рэспубліках і абласцях—паўсюды выраслі велізарныя, гіганцкія прадпрыемствы, узброеныя навейшай тэхнікай.

Мы тут адзначым толькі некалькі надзвычай важных фактаў апошніх месяцаў, якія ўнеслі багаты ўклад у справу далейшага ўмацавання соцыялізма, эканамічнай магутнасці Совецкага саюза. Уступіў у строй Чалябінскі, першы па сваёй магутнасці ў СССР і ва ўсім свеце, завод вусенічных трактароў,

вытворчасцю ў 50 000 «Сталінцаў» у год; быў пушчан уральскі машына-будаўнічы гігант—«завод, які вытварае заводы», які ўжо ў першы год сваёй работы павінен даць 100 000 тон featuresрознага высокацэннага машыннага абсталявання — поўныя камплекты доменных і мартэнаўскіх печаў, пракатных станаў, блюмінгаў, газагенератарных установак і да т. п.; пушчан дняпроўскі алюмініевы камбінат; уведзен у эксплаатацыю новы, багацейшы нафтаносны раён Лок-Багана; закончан будаўніцтвам Беламорскі канал імя **Сталіна,** які перавышае па сваіх гідратэхнічных збудаваннях і па працяжэнні загранічныя Панамскі і Суэцкі каналы. Беламорскі канал, пабудаваны выключна сіламі нашай краіны, звязаў самым кароткім і танным шляхам Белае мора з Балтыцкім.

У нас, у Совецкай Беларусі, гэты год таксама адзначаецца буйнейшымі дасягненнямі ў абсягу новага прамысловага будаўніцтва. Ужо ўступіў у пускавы перыяд магутны механізаваны Крычаўскі цэментны завод, каля Гомеля, у Касцюкоўцы, заканчваецца будаўніцтва буйнейшай у СССР, узброенай навейшай тэхнікай, гуты, вытворчасць якой перавысіць выпрацоўку ўсіх дзеючых цяпер на тэрыторыі рэспублікі заводаў.

Нашы гіганцкія дасягненні, магутны колькасны і якасны рост рабочых і інжынерна-тэхнічных кадраў стварылі ў нашай краіне

такія ўмовы, пры якіх «няма такой машыны, якую-б мы не пабудавалі; сёння няма такога прадпрыемства, такога завода, такой фабрыкі, якую-б мы не маглі спраектаваць і пабудаваць уласнымі інжынерна-тэхнічнымі сіламі» (Орджонікідзе).

Усё гэта стварыла трывалую базу для бесперабойнай работы прамысловасці ўсяго Савецкага саюза і, у прыватнасці, для прамысловасці БССР. Абсталяванне для фабрык і заводаў нашай рэспублікі прыбывае ва ўсё ўзрастаючай колькасці, справа снабжэння прадпрыемстваў сыравінай нязменна паляпшаецца, прычым асартымент сыравіны пашыраецца. У рэзультаце паспяховага ажыццяўлення планаў першай пяцігодкі значна ўзрасла роля і месца БССР у радзе галін прамысловасці Саюза, асабліва па лініі лёгкай індустрыі. Так, напрыклад, запалкавая прамысловасць нашай рэспублікі дае ўжо 22,3 проц. агульнай выпрацоўкі па СССР, швейная прамысловасць—10,7 проц. саюзнай прадукцыі, папяровая прамысловасць—8,8 проц., трыкатажная прамысловасць — 5,7 проц., скуранаабутковая прамысловасць—4,6 проц. і т. д.

Магутны прамысловы рост БССР—прамы рэзультат брацкай дапамогі, якую нам аказваў і аказвае Савецкі саюз. Гэта давала нам магчымасць у гады першай пяцігодкі дабіцца больш высокіх тэмпаў развіцця, чым

у сярэднім па СССР. У той час, калі сярэдні прырост прадукцыі па СССР складаў у гады пяцігодкі 21,6 проц., то для БССР ён складаў 48 проц.

## Прамысловасць БССР у першым паўгоддзі 1933 г.

Наша ўзросшая роля ў выпуску прадукцыі для рабочых і калгаснікаў СССР такім чынам накладае на нас адказнейшыя задачы. Мы абавязаны яшчэ лепш, чым раней, працаваць. Аднак, як гэта адзначыў VII Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б, прамысловасць, аб'яднаемая Ўпаўнаркомцяжпромам і Наркомлёгпромам БССР у першым паўгоддзі 1933 г. працавала зусім нездавальняюча. Зусім спрыяючыя ўмовы для работы прамысловасці, якія стварыліся для нас, дрэнна скарыстоўваліся намі. Значная частка прадпрыемстваў ганебна адстала ў выкананні промфінплана.

Вынікі, падведзеныя Аб'яднаным пленумам ЦК і ЦКК КП(б)Б за першае паўгоддзе, паказваюць, што лёгкая прамысловасць Беларусі выканала план толькі на 84,1 проц., а цяжкая прамысловасць—на 82,5 проц.

У ліку адстаўшых аказаўся рад буйнейшых фабрык і заводаў. Так, напрыклад, Віцебская швэйная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі»,

якая паводле плана павінна даць 40 проц. усёй прадукцыі швейных фабрык Беларусі, рэалізвала сваё заданне ў першым квартале на 78 проц. і ў другім квартале—толькі на 57 проц. Таксама ганебна адсталі Гомсельмаш, Віцебская панчошна-трыкатажная фабрыка «КІМ», менская і віцебская абутковыя фабрыкі, гута «Ноўкі», торфзаводы, «Асінторф», «Большэвік» і інш.

Найбольш адчувальна адставанне прамысловасці БССР на ўчастках якаснага выканання промфінплана—палепшання продукцыі і ліквідацыі брака, уздыма вытворчасці працы і зніжэння сабекошта. На працягу першага паўгоддзя вялікую колькасць брака, напрыклад, давала швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», аб якой ужо гаварылася вышэй. Фабрыка, абсталяваная па апошнім слове тэхнікі, высокацэнныя тканіны пераварала літаральна ў горы бракаванай вопраткі. Дайшло да таго, што нядаўна на фабрыцы скапілася 23000 бракаваных палітоў. Гэта прывяло да таго, што па пастанове калегіі Наркомлёгпрома СССР фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» быў часова спынен водпуск тэкстыля і прапанавана перабудаваць увесь тэхналагічны працэс. Папярэджанне аб спыненні водпуска сыравіны з прычыны выпуска вялікай колькасці брака атрымалі бабруйская швейная фабрыка імя Дзержынскага і менская швейная фабрыка імя Крупскай.

Наколькі нездавальняюча становішча на ўчастку барацьбы з бракам паказвае тое, што нават такое прадпрыемства, як менскі скурзавод «Большэвік», які на працягу рада год выконвае і перавыконвае свой промфінплан, у першым паўгоддзі поўнасцю не забяспечыў выпуска добраякаснай прадукцыі. Аб гэтым гаворыць той факт, што Прэзыдыум ленінградскага аблвыканкому вымушан быў нядаўна спецыяльна адзначыць дрэнную якасць скуры, якую завод «Большэвік» пасылае ў Ленінград.

Падобнае становішча моцна б'е таксама па колькасным выкананні промфінплана і немінуча прыводзіць да павышэння сабекошта прадукцыі. Так, напрыклад, на менскім машынабудаўнічымі заводзе імя Варашылава, з прычыны розных вытворчых няўвязак і непаладак, з прычыны вялікага брака ліцця і дрэннай апрацоўкі дэталяй, сабекошт прадукцыі за першае паўгоддзе павысіўся супроць плана на 12,3 проц.

Чаму адсталі многія нашы заводы і фабрыкі ў выкананні колькасных і якасных паказальнікаў промфінплана? Гэта аб'ясняецца тым, што большасць работнікаў прамысловасці (заводаў, трэстаў, Наркоматаў) у асаблівасці кіраўніцтва Наркомлёгпрома і Ўпаўнаркомцяжпрома не зрабілі неабходных вывадаў з пастаноў студзенскага і верасьнёўскага

пленумаў ЦК УсеКП(б), пленумаў ЦК КП(б)Б, і пазнейшых пастаноў ЦК УсеКП(б) аб Донбасе, «аб перабудове зверху данізу работы па кіраванні прамысловасцю, аб перанясенні цэнтра цяжара канкрэтнага кіраўніцтва на прадпрыемствы, у цэх, у брыгаду і т. д., аб ачыстцы апарата прамысловасці ад класава-варожых і чуждых элементаў, перасоўваючы на прадпрыемствы, у цэхі інжынерна-тэхнічныя сілы; не вялі рашучай барацьбы з саноўна-панскімі, канцэлярска-бюракратычнымі адносінамі з боку апарата наркоматаў і трэстаў да запатрабаванняў паасобных прадпрыемстваў; не вялі рашучай барацьбы з апартуністычнымі адносінамі да выканання промфінплана з боку паасобных трэстаў і дырэктароў прадпрыемстваў і, не гледзячы на глыбокія прарывы ў выкананні промфінплана за першы квартал 1933 г., не ставілі з усёй вастрынёй перад ЦК пытанняў, звязаных з барацьбой за выкананне промфінплана» (з пастановы VII ліпенскага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Далей у пастанове гаворыцца: што адставанне прамысловасці ў выкананні прамфінплана аб'ясняецца яшчэ і тым, «што як партыйныя, комсамольскія, так і савецкія і прафсаюзныя арганізацыі аслабілі сваю ўвагу да справы барацьбы за промфінплан і перабудовы метадаў кіраўніцтва прамысловасцю, не раскрывалі і выкрываюцьсувалі жорстка наяўных

недахопаў у рабоце прамысловасці і **недастаткова** кіравалі яе работай».

На студзенскім пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б), вызначаючы баявыя задачы нашай прамысловасці, т. Сталін з асобай сілай падкрэсліў, што пафас новага будаўніцтва «павінны мы дапоўніць энтузіязмам, пафасам **асваення** новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзным падняццем вытворчасці працы, сур'ёзным скарачэннем сабекошта. **У гэтым цяпер галоўнае».** Тав. Сталін пры гэтым выходзіў з указання Владзіміра Ільіча Леніна аб тым, што «вытворчасць працы ў канчатковым выніку самае галоўнае, самае важнае для перамогі новага грамадскага лада».

У адпаведнасці з указаннямі студзенскага пленума і дырэктывамі ЦК КП(б)Б, IV сесія ЦВК БССР устанавіла, як мінімальнае, заданне па павышэнні вытворчасці працы: для прадпрыемстваў, аб'ядноемых Упаўнаркомцяжпрамам—15,9 проц., для прадпрыемстваў, аб'ядноемых Наркомлёгпромам БССР—9,5%, Наркомснабам—22% і Упаўнаркомлесам—33,4 проц., асобна па папяровых фабрыках Беларусі—50,7%. Вызначэнне гэтых заданняў па павышэнні вытворчасці працы грунтавалася на значна ўзрослай тэхнічнай магутнасці нашых прадпрыемстваў, на неабходнасці аўладання тэхнікай вытворчасці, на росце кваліфікацыі і культуры рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў нашай прамысловасці.

*Сесія ЦВК БССР указала на неабходнасць «паставіць у цэнтры ўвагі прапрацоўку якасных паказальнікаў на прадпрыемствах, забяспечыўшы карэнны зрух у бок палепшання якасці прадукцыі, скарыстання абсталявання, зніжэння ўдзельных норм расходвання апалу, электраэнергіі, матэрыялаў, мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў, барацьбы з бракам, правільнай расстаноўкі рабочай сілы».* Гэтыя ўказанні зьявіліся выходным момантам для вызначэння наступных заданняў па зніжэнні сабекошта прадукцыі прамысловасці БССР: па прадпрыемствах аб'яднаемых Наркомцяжпромам на 7,6 проц., Наркомлёгпромам—3 проц., Наркомснабам—2,2 проц. і Упаўнаркомлесам—1 проц.

Якое велізарнае значэнне гэтыя пытанні маюць для народнай гаспадаркі нашай краіны, для далейшага соцыялістычнага будаўніцтва, відаць хоць-бы з таго, што кожны процант прыроста вытворчасці працы дае па СССР 290 млн. руб., а кожны процант зніжэння сабекошта прадукцыі эканоміць сотні мільёнаў руб. Значыць, ад аднаго павышэння вытворчасці працы народна-гаспадарчы план нашага Саюза прадугледжвае атрымаць у гэтым годзе дадатковай прадукцыі прыкладна на 4 млрд. руб. больш, чым у мінулым годзе.

Іменна выходзячы з велізарнейшага значэння гэтых элементаў якаснага выканання

плана для народнай гаспадаркі **нашай краіны**, студзенскі пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) прапанаваў «усім гаспадарчым, партыйным і прафесіянальным арганізацыям **сканцэнтраваць у 1933 г. галоўную ўвагу** на поўным выкананні заданняў па падняцці вытворчасці працы і зніжэнні сабекошта, ступень ажыццяўлення якіх будзе ў першую чаргу ўлічвацца пры ацэнцы дзейнасці прадпрыемстваў і трэстаў».

У сучасны момант яшчэ няма поўных падагульняючых матэрыялаў аб якасных паказальніках работы прамысловасці БССР за першае паўгоддзе. Але ўжо першыя папярэднія матэрыялы паказваюць, што прамысловасць не выканала гэтага важнейшага патрабавання партыі. Так, напрыклад, лёгкая прамысловасць рэспублікі за першыя 4 месяцы гэтага года замест зніжэння сабекошта на 3,4 проц. павысіла яе на 5,2 проц., а па прадпрыемствах Упаўнаркомцяжпрома замест зніжэння на 8 проц. сабекошт павысіўся на 5,7 проц. План па вытворчасці працы на аднаго рабочага лёгкая прамысловасць за першыя 5 месяцаў рэалізавала ўсяго на 86 проц., прычым па швейнай прамысловасці—на 76,7 проц., па шкляной—на 96,3 %, па хімічнай—на 93,6 проц. Аб тым, наколькі ажыццявімы былі заданні па вытворчасці працы сведчаць многія прадпрыемствы БССР, у асаблівасці тэкстыльная прамысловасць,

*якая заданне ў сярэднім выканала на 109,6 проц.*

Для ажыццяўлення рашэнняў студзенскага пленума ЦК і ЦКК УсеКП(б) па пытаннях павышэння вытворчасці працы і зніжэння сабекошта трэба было перш за ўсё правільна арганізаваць працу і кіраўніцтва работай, прывесці размеры рабочай сілы ў поўную адпаведнасць з вытворчымі планамі, не дапускаць перарасходвання фондаў зарплаты, сістэматычна весці барацьбу з безгаспадарчасцю, з неэканомным расходваннем матэрыялаў. Трэба было дапамагчы рабочым асвоіць тэхніку вытворства, асвоіць перагледжаныя нормы выпрацоўкі. Усе гэтыя важнейшыя ўмовы для дасягнення перамогі на ўчастках якасных паказальнікаў работы поўнасцю не былі ажыццёўлены і, у асаблівасці, у справе асваення новага абсталявання і сістэматычнага інструктажа рабочых. Гэта з выключнай паўнатой выявілася ў дакладах сакратароў парткалектываў швейных фабрык «Комінтэрн» (Гомель) і «Профінтэрн» (Віцебск) на пасяджанні бюро ЦК КП(б)Б у сярэдзіне ліпеня гэтага года.

ЦК прызнаў, што партарганізацыі гэтых прадпрыемстваў «не здолелі ў сваёй практычнай рабоце асноўную ўвагу накіраваць на вырашэнне важнейшых вытворчых задач». ЦК адзначыў, што на гэтых фабрыках не была разгорнута барацьба за якасць прадук-

цыі, не было распрацаванай сістэмы штодзённай барацьбы з бракам і перапрацоўкамі, выяўлення бракаробаў, устанаўлення матэрыяльнай адказнасці за брак, не вялася работа па падняццю кваліфікацыі адстаючых рабочых. За машынамі не сачылі, іх зношанасць дасягала неймаверных размераў, не былі выкананы планы зніжэння сабекошта. Вось чаму, даўшы рад практычных указанняў, ЦК КП(б)Б адзначыў, што як на гэтых фабрыках, так і «ва ўсёй швейнай прамысловасці няма ніякіх падстаў працаваць з прарывамі, што далейшыя прарывы ў выкананні промфінплана ЦК будзе расцэньваць выключна, як няўменне партыйнага, гаспадарчага і прафесіянальнага кіраўніцтва па-бальшэвіцку працаваць».

## Вышэй рэволюцыйную пільнасць!

На значнай частцы прадпрыемстваў кіраўніцтва зусім не ўлічыла, што іменна на ўчастках павышэння вытворчасці працы, зніжэння сабекошта і барацьбы за высокую якасць прадукцыі класавы вораг прабуе шкодзіць, перашкаджаць нам у рабоце. Аб тым да чаго даводзіць самазаспакоенасць, усыпленне рэволюцыйнай пільнасці сведчаць факты, выяўленыя на некаторых торфзаводах, калі былыя кулакі, прабраўшыся на завод, ламалі абсталяванне з мэтай сарваць выкананне торфплана. У дні чысткі партарганізацыі друкарні

*імя Сталіна выявілася, што на кіруючай рабоце на радзе ўчасткаў вытворства сталі былыя людзі*, чужакі, ашуканствам пралезшыя ў партыю, якія, зразумела, тармазілі выкананне промфінплана. Прыкладна тое-ж самае было выяўлена ў дні чысткі на менскай электрастанцыі. На станцыі,—пісаў аб першых выніках чысткі партыі ў БССР старшыня рэспубліканскай камісіі т. Анціпаў,—паасобныя партыйцы бралі прыватныя падрады, а матэрыял для выканання іх кралі з электрастанцыі. Рэдактар шматтыражкі аказаўся сынам кулака і т. д.

На студзенскім пленуме т. Сталін сказаў, што класавы вораг, разбіты ў аткрытым баі, ужывае цяпер новыя мэтады супраціўлення нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву. «Гэтыя былыя людзі распаўзліся па нашых фабрыках і заводах, па нашых установах і гандлёвых арганізацыях, па прадпрыемствах чыгуначнага і воднага транспарта і галоўным чынам па калгасах і саўгасах. Распаўзліся і ўкрыліся яны там, накінуўшы маску «рабочых» і «сялян», пры чым, той-сёй з іх пралез нават у партыю... Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Гэтае ўказанне правадыра нашай партыі і рабочага класа павінны памятаць усе нашы партыйныя, гаспадарчыя і прафесіянальныя

арганізацыі прадпрыемстваў, кожны член партыі, кожны беспартыйны рабочы.

## У чым сэнс пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб Донбасе і чыгуначным транспарце?

Неабходнасць поўнай канкрэтнасці ў кіраўніцтве і ведання справы асоба падкрэслілі ЦК УсеКП(б) і СНК СССР у сваіх пастановах аб рабоце Донбаса і чыгуначнага транспарта. На гэта-ж на ўсебеларускіх партыйных нарадах па торфу і лёгкай прамысловасці з усёй сілай указалі сакратары ЦК КП(б)Б тт. Гікало і Шаранговіч і Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б. Значэнне пастановы ЦК і СНК аб вугалі і чыгуначным транспорце выходзіць далёка за межы адной вугальнай прамысловасці і чыгуначнага транспарта. У прамове на донбаскай канферэнцыі ўдарнікаў-шахцёраў т. Кагановіч гаварыў:

> «Пастанова ЦК і СНК мае буйнае гістарычнае значэнне не толькі для вугальнай прамысловасці, але і для іншых галін, асабліва для металургіі».

Справа ідзе не аб сляпым перанясенні новых форм і метадаў работы вугальнай прамысловасці ў іншыя галіны. Справа ідзе аб тым, што перабудова вугальнай прамысловасці адбываецца на аснове такіх прынцыпаў, якія з'яўляюцца **агульнымі для ўсіх галін.**

*Рашучая барацьба з канцылярска-бюракратычнымі метадамі кіраўніцтва,* цвёрды нязьменны курс на ўмацаванне лепшымі тэхнічнымі і арганізатарскімі сіламі асноўнага вытворчага звяна, сконцэнтраванне ў руках кіраўнікоў рашаючых функцый кіраўніцтва (падбор людзей, рэгуляванне зарплаты, праверка выканання), большэвіцкая стаўка на найбольш вытворчыя метады вытворства, безупынная праверка ўсёй сістэмы работы і рашучае зніштажэнне ўсяго нягоднага,—вось у чым сутнасць перабудовы работы і новых умоў кіраўніцтва прамысловасцю.

Выходзячы з рашэнняў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб Донбасе і чыгуначным транспарце, VII Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б запрапанаваў кіраўніцтву Ўпаўнаркомцяжпрома і Наркомлёгпрома «карэнным чынам перабудаваць работу наркаматаў і трэстаў... на працягу двух дэкад унесці ў ЦК і СНК узгодненыя са сваімі саюзнымі цэнтрамі праекты рэарганізацыі кіраўніцтва ўсіх звеньняў прамысловасці... у самы кароткі тэрмін правесці рашучую перасоўку ІТР і найбольш здольных арганізатараў з апарата наркаматаў, трэстаў і заводакіраўніцтваў у цэхі, змены».

Важнейшымі момантамі ў барацьбе за выкананне промфінплана з'яўляюцца пытанні давядзення планаў да цэха, брыгады і паасобнага рабочага, прыцягненне рабочых мас

да абмеркавання заданняў, шырокае разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, мабілізацыя творчай мыслі рабочых і інжэнерна-тэхнічных работнікаў на справу рацыяналізацыі вытворства, на расшырэнне вынаходніцтва.

## Ініцыятыва серпамолатаўцаў

Адну з найбольш цікавых форм ажыццяўлення гэтых задач для выканання промфінплана высунуў нядаўна маскоўскі завод высокаякасных сталяй «Серп и молот». Па ініцыятыве партыйнай арганізацыі гэтага завода была склікана канфэрэнцыя па зніжэнні сабекошта. На заводзе разгарнулі шырокую масавую работу ў цэхах, ператварылі падрыхтоўку да канферэнцыі ў справу ўсіх рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў завода, надалі выбарам дэлегатаў на канферэнцыю вялікае гаспадарча-палітычнае значэнне. На падрыхтоўку да канферэнцыі была мабілізавана ўся партыйная арганізацыя завода. Гэта забяспечыла магутны прыток рацыяналізатарскіх прапаноў. Партыйная арганізацыя «Серп и молот» паказала ўзор таго, як трэба разгортваць соцспаборніцтва, як трэба змагацца за зніжэнне сабекошта, павышэнне вытворчасці працы і палепшанне якасці прадукцыі.

Трэба асоба адзначыць вялікую ролю, якую

адыграла заводская газета «Мартеновка» ў падрыхтоўцы і правядзенні канферэнцыі сернамолатаўцаў. «Мартеновка» жорстка біла па ўсіх недахопах зніжэння сабекошта і павышэння вытворчасці працы; яна на перадавым, станоўчым вопыце ўдарнікаў вучыла, як трэба працаваць.

Большэвіцкую ініцыятыву маскоўскага завода падхапілі многія прадпрыемствы Беларусі. Ужо адбыліся такія канферэнцыі на радзе прадпрыемстваў Барысава, у Магілеве— на скурзаводзе імя Сталіна, у Гомелі—на заводах «Пролетарый» і імя Ланцуцкага, у Менску—на заводзе імя Варашылава. Рыхтуюцца да такіх канферэнцый абутнікі, гарбары, швейнікі, дрэваапрацоўшчыкі і інш.

Аднак, на паасобных прадпрыемствах да правядзення канферэнцыі па зніжэнні сабекошта падышлі фармальна, толькі для таго, каб адбыць урок. Так, напрыклад, у некалькі дзён, без падрыхтоўкі правялі канферэнцыю ў Барысаве на лесакамбінаце «Комінтэрн» і бярэзінскім запалка-фанерным камбінаце. Наколькі тут фармальна падышлі да справы паказвае тое, што на лесакамбінаце спачатку нават не выбіралі дэлегатаў на канферэнцыю. Рабочым проста абвясцілі: «Будзе канферэнцыя, прыходзце». У рэзультаце такой «падрыхтоўкі» ніхто на канферэнцыю не

з'явіўся. І толькі на наступны дзень, калі наспех выбралі дэлегатаў, канферэнцыя адбылася, але прысутнічалі на ёй толькі выбраныя ў цэхах дэлегаты. На «Комінтэрне» да канферэнцыі па зніжэнні сабекошта і барацьбе з бракам падышлі, як да кампаніі, у перыяд якой можна вычарпаць пытанне. Барацьба за зніжэнне выдаткаў вытворства, за ліквідацыю прастояў машын і станкоў—справа напружаная, патрабуючая пастаяннай, пільнай увагі і актыўнай мабілізацыі сіл. Гэтага не зразумелі арганізатары першых канферэнцый у Барысаве. Памылку другога парадка дапусціла бюро парткалектыва лесазавода імя Молатава ў Менску. Тут падрыхтоўку да канферэнцыі бюро партыйнага калектыва перадаверыла спецыяльна выбарчай аргпяцёрцы. У гэтым, з самага пачатку, сказалася недаацэнка значэння падрыхтоўкі канферэнцыі, як важнейшага фактара мабілізацыі мас на барацьбу за высокую якасць работы.

Добра прайшла канферэнцыя па зніжэнні сабекошта на заводзе імя Варашылава ў Менску. Тут спачатку пытанне аб скліканні канферэнцыі было пастаўлена на абмеркаванне бюро партыйнага калектыва, потым пытанне было перанесена на агульназаводскія і цэхавыя партыйныя сходы, дзе была асабліва падкрэслена вядучая роля камуністаў

у правядзенні канферэнцыі. У падрыхтоўку да канферэнцыі была ўцягнута ўся рабочая маса. Пачалі працаваць брыгады рабочых-ударнікаў і ІТР. Трохкутнік завода выпусціў спецыяльную адозву для ўсяго калектыва прадпрыемства з заклікам прыняць актыўны ўдзел у канферэнцыі. Рабочым і ІТР былі раздаены памяткі, раз'яснілі якіх прапаноў чакае завод для ўзмацнення барацьбы за прамфінплан. Былі скліканы сходы старых рабочых, праведзен спецыяльны камсамольскі дзень, створаны розныя камісіі для дэталёвага вывучэння стана вытворчасці працы, сабекошта, брака, прастоя, расходвання матэрыялаў і да т. п.

У рэзультаце шырокай масавай рабсты партарганізацыя варашылаўцаў дабілася таго, што ў падрыхтоўцы да канферэнцыі ўдзельнічала 93 проц. рабочых завода, паступіла звыш 200 рацыяналізатарскіх прапаноў, ажыццяўленне якіх павінна даць толькі ў трэцім квартале 70 тыс рублёў эканоміі. У ходзе падрыхтоўкі да канферэнцыі выявілася адарванасць тэхнічнага кіраўніцтва ад цэхаў, і рабочыя паставілі пытанне аб тым, каб асноўныя тэхнічныя сілы былі перакінуты непасрэдна на вытворчыя ўчасткі. Вялікая падрыхтоўчая работа забяспечывала поўны поспех і самой канферэнцыі па зніжэнні сабекошта. Яна прайшла з вялікім

уздымам, дзесяткі рабочых з трыбуны канферэнцыі ўнеслі шмат каштоўных прапаноў, як узмацніць барацьбу за якаснае выкананне прамфінплана.

Падводзячы першыя вынікі канферэнцый па зніжэнні сабекошта ў БССР, неабходна тут-жа рашуча папярэдзіць, што нават у тых выпадках, калі канферэнцыі былі добра падрыхтаваны і добра праведзены, яны могуць аказацца зусім безрэзультатнымі, калі кіраўніцтва безадкладна не распачне рэалізацыю прынятых рашэнняў. Рашэнні «на паперы» ўносяць дэмабілізацыйныя настроі ў асяроддзе рабочых, дыскрэдытуюць кіраўніцтва завода ў вачох усяго калектыва.

Практыка работы многіх заводаў і фабрык БССР даказвае, што ў нас ёсць усе ўмовы не толькі для выканання, але і перавыканання прамфінплана. Так, напрыклад, з перавыкананнем плана закончылі паўгоддзе швейная фабрыка «Кастрычнік», машынабудаўнічы завод «Комунар», завод вагаў «Ударнік», гута імя Домбаля, запалкава-фанерны камбінат імя Дзесяцігоддзя Кастрычніка, торфазавод «Звязда», скурзавод імя Сталіна і інш.

Ліпенскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б даў баявыя заданні:

> «Наркаматам, трэстам і прадпрыемствам на працягу трэцяга квартала ўка-

раніць ва ўсе звенні прамысловасці тэхпрамфінплан і ўвесці тэхнічнае нармаваньне не толькі працоўных працэсаў, але і ўсіх элементаў вытворства— сыравіны, апала, дапаможных матэрыялаў, энергіі і інш. Падпарадкваць гэта задачам непасрэднай увязкі зарплаты з выкананнем плана і прыстасаваць усю сістэму зарплаты да стымулявання павышэння кваліфікацыі, выдзялення вядучых прафэсій, асваення тэхнікі, зніжэння сабекошта.

Наркомлёгпром і Наркомцяжпром, трэсты і прадпрыемствы абавязаны поўнасцю ўлічыць і скарыстаць усе магчымасці і рэзэрвы ўнутры прадпрыемстваў з тым, каб пры планаванні трэцяга квартала выходзіць з абавязка ў другім паўгоддзі не толькі поўнасцю выканаць план, але і пакрыць запазычанасць за першае паўгоддзе. Поўнае выкананне гадавога плана як па кольксных, так і ў асаблівасці па якасных паказальніках з'яўляецца галоўнай і цэнтральнай задачай барацьбы за прамфінплан у другім паўгоддзі 1933 г.».

Каб рэалізаваць гэтую дырэктыву неабходна неадкладна ўзяцца за перабудову кіраўніцтва цэхамі і брыгадамі, кладучы ў аснову дырэктывы ЦК і СНК аб Данбасе і чыгунач-

ным транспарце. Канкрэтна кіраваць, перасунуць асноўныя кваліфікаваныя сілы з усіх арганізацый і ўстаноў у цэхі (не менш 70 проц.), узмацніць адзінаначалле, правільна арганізаваць соцыялістычнае спаборніцтва, цэхавы і брыгадны гасразлік, весці бязлітасную барацьбу з нарушыцелямі працоўнай дысцыпліны, з бракаробамі, выкараняць дробнабуржуазную неахайнасьць і расхлябанасць у абслугоўванні станкоў, правільна арганізаваць рабочае снабжэнне, выдзяляючы лепшых ударнікаў,—такімі з'яўляюцца асноўныя патрабаванні, якія прад'явіў усім партыйным гаспадарчым і прафесіянальным арганізацыям VII Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б.

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б з асобай сілай падкрэсліў ролю і значэнне правільнай арганізацыі партмасавай работы на прадпрыемстве.

> «Пленум ЦК і ЦКК лічыць цэнтральнай задачай фабрычна-заводзкіх партарганізацый безадкладнае ўмацаванне цэхавай ячэйкі і сканцэнтраванне ўсёй арганізацыйна-партыйнай і палітычна-масавай работы ў цэху, партгрупе, з тым, каб кожнага комуніста зрабіць сапраўдным арганізатарам вытворчага і палітычнага жыцця на прадпрыемстве і сярод рабочых».

*Студзенскі пленум нашай партыі падкрэсліў, што «план 1933 г., як план першага года другой пяцігодкі, з'яўляецца далейшым развіццём справы пабудовы соцыялістычнага грамадзтва ў СССР».* І таму, мабілізуючы актыўнасць комуністаў, усіх адданых нашай партыі беспартыйных рабочых на ажыццяўленне рашэнняў пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б, бязлітасна выкрываючы класавых ворагаў, апартуністаў і сабатажнікаў, вымятаючы разлажыўшыяся і чужыя элементы з радоў партыі, мы поўнасцю па ўсіх паказальніках выканаем план далейшай разгорнутай барацьбы за соцыялізм.

## II. ЯКІЯ ЗАДАЧЫ СТАЯЦЬ ЗАРАЗ ПЕРАД НАШАЙ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКАЙ

Першая большэвіцкая вясна другой пяцігодкі ярка прадэманстравала буйнейшыя поспехі, якіх мы дабіліся ў рэзультаце рашучага палепшання кіраўніцтва сельскай гаспадаркі, на аснове ўказанняў т. **Сталіна**, даных у яго праграмных прамовах «Аб рабоце ў вёсцы» і на Першым усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў, а таксама тыя карэнныя змяненні, якія адбыліся ў сазнанні калгасных мас, у іх адносінах да калгаснай працы.

**З соцыялістычнага спаборніцтва з Заходняй вобласцю на лепшае правядзенне веснавой сяўбы БССР выйшла пераможніцай.** Мы да 14 чэрвеня, г. зн. на 20 дзён раней, чым у мінулым годзе, закончылі па рэспубліцы сяўбу яравых, перавысіўшы паказальнікі 1932 г. і нават 1930 г.—года самых рэкордных ураджаяў.

Гэта—факт велізарнейшага значэння. Ён красамоўна сведчыць аб гіганцкім росце палі-

тычнай і гаспадарчай актыўнасці працоўных мас вёскі і іх адданасці нашай партыі.

Як быў дасягнут гэты поспех?

> «Паспяховае правядзенне сяўбы ў гэтым годзе,—канстатавалі ў сваёй пастанове СНК СССР і ЦК УсеКП(б),— дасягнута, дзякуючы разгрому сабатажу кулацкіх элементаў у часе збожжазагатовак, умацаванню калгасаў, росту і згуртаванню ў іх совецкага актыва, стварэнню палітаддзелаў, мабілізацыі шырокіх мас калгаснікаў вакол лозунга партыі «зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі»,—пераходу ў справе збожжазагатовак ад сістэмы кантрактацыі да абавязковай пастаўкі збожжа, загадзя акрэсліўшы. цвёрдыя размеры здачы збожжа з гектару для кожнага калгаса».

І далей ЦК УсеКП(б) і СНК СССР так фармулююць агульную ацэнку, агульны вынік веснавой сяўбы бягучага года:

> «Падводзячы вынікі, мы можам цяпер сказаць, што пазыцыі аднаасобнай гаспадаркі пераможаны ўжо ва ўсіх асноўных раёнах СССР і поўная перамога калгаснага ладу ў вёсцы забяспечана».

Ітак, мы правялі сяўбу больш дружна і лепш, чым у мінулым годзе і нават чым у

1930 г. Але не трэба пераацэньваць гэты поспех. Было-б дрэнна, было-б надзвычай небяспечна, калі-б у нас ад гэтага поспеха «ускружыліся» галовы.

Нельга забываць таго, што мы зрабілі ўсё-ж менш, чым маглі-б зрабіць, што мы не скарысталі ўсіх тых магчымасцяй, якія былі ў нас, каб сяўбу яравых закончыць яшчэ тыдні на два раней, г. зн. не да 14-га, а да 1-га чэрвеня. Нельга забываць тых урокаў, якія для ўсёй КП(б)Б далі магілеўская і віцебская арганізацыі—буйнейшыя арганізацыі вялікіх індустрыяльных цэнтраў БССР. Іменна таму, што тут замест рашучай барацьбы з кулацтвам і яго агентурай працвітаў гнілы лібералізм, неўменне своечасова выкрыць і знішчожыць манеўры класавага ворага, які часта выступае пад фальшыва-нацыянальным флагам, іменна таму, што тут замест большэвіцкай мабілізацыі мас мелі месца апартуністычны самацёк, алілуйшчына, слоўная дэкларацыйнасьць, саноўна-панскія метады кіраўніцтва, а замест канкрэтнага кіраўніцтва сельскай гаспадаркай—адрыў ад калгасаў і ігнараванне працоўных аднаасобнікаў—іменна таму так ганебна адсталі Магілеўшчына і Віцебшчына.

Улічыць гэты ўрок асабліва цяпер, калі мы ўступілі ў рашаючы этап сельскагаспадарчых работ бягучага года,—абавязак кожнай пар-

*тыйнай арганізацыі, кожнага комуніста, кожнага кіруючага работніка.* Неабходна цвёрда памятаць, **што ўраджаем трэба лічыць не тое, што вырасла на палях, а тое што ўбрана з поля.**

Нездарма VII аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б папярэдзіў, што:

> «Выкананнем плана веснавой сяўбы зроблен толькі першы крок для паспяховага правядзення ўсіх сельскагаспадарчых работ гэтага года. Ніякім дэмабілізацыйным настроям, **элементам** самазаспакоенасці не павінна быць месца, бо асноўная работа, больш напружаная, яшчэ ўперадзе».

Сярод гэтых асноўных работ рашаючымі з'яўляюцца ўборачная і загатоўчая кампаніі. Вось чаму ўборачная і загатоўчая кампаніі набываюць выключна гаспадарча-палітычнае значэнне. Аб якасці правядзення ўборкі, загатовак залежыць вынік сельскагаспадарчага года. Баявой, большэвіцкай уборкай, уборкай высокай па якасці і максімальна ўшчыльнёнай па тэмпах, уборкай без страт і своечасовым выкананнем загатовак павінны мы завяршыць пераможную асеннюю сяўбу бягучага года.

Тым самым будзе забяспечана значнае павышэнне ўзроўня матэрыяльнага дабрабыта

шырокіх мас калгаснага сялянства. Гэта ў спалучэнні з рэалізацыяй гістарычнага дэкрэта ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб дапамозе бескароўным калгаснікам у набыцці кароў, аб выдзяленні з гэтай мэтай 30 млн. руб. у якасці доўгатэрміновага крэдыта адыграе ролю велізарнейшага фактара ў руху ўсяго калгаснага сялянства ўперад да заможнага жыцця. Тым самым мы панясем новы сакрушальны ўдар разбітым, але канчаткова яшчэ недабітым кулацтву, забяспечым новы ўздым нашай сельскай гаспадаркі, росквіт соцыялістычнага земляробства і забяспечым пяршынства нашай рэспублікі ў соцыялістычным спаборніцтве з Заходняй областцю на лепшае правядзенне ўборкі і с.-г. паставак пролетарскай дзяржаве.

## Чаму неабходны максімальна ўшчыльнёныя тэрміны ўборкі

Як-жа арганізаваць уборку своечасова і без страт?

**Самае галоўнае—забяспечыць уборку ў максімальна сціслыя тэрміны:** у сярэднім у 7—9 дзён па кожнай зерневай культуры, у 15—20 дзён па бульбе, у 8—10 дзён па церабленні ільна.

Максімальна ўшчыльнёныя тэрміны ўборкі з'яўляюцца важнейшым мерапрыемствам у

*барацьбе з стратамі, у барацьбе за высокі ўраджай.* Гэтая барацьба павінна весціся **таксама рашуча і непрымірыма,** як увесну вялася барацьба за раннія і звышранія тэрміны сяўбы.

Чаму так важна ўшчыльніць тэрміны ўборкі?

А вось чаму. Практыка паказвае, што кожны дзень спазнення з уборкай зерневых прыводзіць да асыпання не менш 1 проц. ураджая. Калі-ж улічыць, што мы ў гэтым годзе ў БССР засеялі звыш $2\frac{1}{2}$ млн. **га** зерневых культур, што з кожнага **га** мы павінны атрымаць не менш 8 **ц** ураджая, а з усёй плошчы каля 2 млн. **т** збожжа, то **страта аднаго толькі працэнта ўраджая складзе па ўсёй БССР звыш 20000 т збожжа.**

Такое-ж велізарнае значэнне маюць ушчыльнёныя тэрміны ўборкі і для ўраджая бульбы. І тут кожны дзень спазнення нясе велізарныя страты. Дастаткова ўспомніць вопыт уборкі бульбы ў мінулым годзе, калі ўборка зацягнулася да лістапада, і немалая частка бульбы перамерзла, калі загінула велізарная колькасьць бульбяніка, які мог-бы быць надзвычай добра скарыстан на сілос. Трэба добра запамятаць, што ў гэтым годзе мы засеялі 250000 **га** бульбы да 20 мая, а «гэта значыць, што бульба паспее ў нас у гэтым годзе значна раней, чым у мінулым, таму

мы павінны арганізаваць масавае капанне бульбы ў першых чыслах верасьня. Інакш у нас бульба прападзе, пойдзе па руках, пачнецца раскрадванне і нам значна цяжэй будзе правесці нашы загатоўкі» (Гікало).

Тое самае трэба сказаць і аб ільне. VII Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б прама патрабуе, каб церабленне звычайнага ільна было праведзена ў ранняя-жоўтай спеласці. Дакладнае выкананне гэтага патрабавання азначае захаванне 7 проц. ураджая ільна і забеспячэнне больш высокай, прыкладна на два нумары, якасці ільнавалакна.

Тэрміны ўборкі з'яўляюцца аб'ектам абвостранай класавай барацьбы. Звычайны прыём барацьбы класавага ворага і яго агентуры на гэтым участку—спроба ўсялякімі шляхамі затармазіць уборку і тым самым прывесці да буйных страт ураджая і да затрудненняў у загатоўчай кампаніі.

Першыя, рашуча змагаючыся супроць усіх, хто прабуе расцягнуць тэрміны ўборкі, разам з тым будзе бязлітасна біць і тых, хто пад шыльдай «датэрміновай уборкі» дапусціць уборку зялёных нявыспеўшых зерневых культур, датэрміновую копку позняй бульбы і т. д.

Дырэктыва партыі зусім ясная і выразная: **уборку зерневых культур**, а таксама бульбы

***і ільна праводзіць па меры выспявання пасобных участкаў, не чакаючы поўнага выспявання ўсяго поля.***

Гэтая дырэктыва, недапускаючая ніякіх крыватолкаў, павінна быць у дакладнасці выканана, а спробы класавага ворага і яго агентуры расцягнуць уборку або справакаваць уборку няспелага жыта, датэрміновую копку позняй бульбы і т. д., павінны быць выкрыты і разбіты.

## Чым шкодны антымеханізатарскія тэндэнцыі

Механізацыя ўборкі—важнейшы момант уборачнай кампаніі бягучага года.

Яшчэ зусім нядаўна каса і серп былі асноўнымі прыладамі па ўборцы ўраджая. Каса і серп у злучэнні з сахой красамоўна сведчылі аб тэхнічнай адсталасці распыленай дробнай сялянскай гаспадаркі. А цяпер—10400 жняярак-снапавязалак працуе на палёх Савецкай Беларусі ў часе ўборкі зерневых культур. Жняярка і снопавязалка вырашаюць поспех уборкі ў адносінах большай часткі ўраджая збожжа, а ільнацерабілка і бульбакапалка—у адносінах ураджая ільна і бульбы.

Антымеханізатарскія тэндэнцыі з'яўляюцца

кулацкай спробай сарваць тэрміны сяўбы і ўборкі, спробай знізіць ураджай, сарваць выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай. Тактыка класавага ворага зводзіцца да зрыва механізацыі сельскагаспадарчых работ, асабліва і ў першую чаргу ў адносінах да працаёмкіх культур. Гэтая тактыка разлічана на тое, каб зацягнуць працэс сельскагаспадарчых работ, выклікаць буйныя страты ў сельскай гаспадарцы, не даць арганізацыйна-гаспадарча ўмацавацца калгасу, затармазіць выкананне абавязацельстваў калгасаў перад дзяржавай. З другога боку, гэтая тактыка накіравана на зрыў вытворчай змычкі паміж пролетарскім горадам і калгаснай вёскай, накіравана на тое, каб замкнуць сельскую гаспадарку ў яе ўласнай шкарлупе, адгарадзіць яе ад уплыва савецкай індустрыі і соцыялістычнага пролетарыята.

У гэтых адносінах выключна павучальна барацьба шкоднікаў, якія арудавалі ў органах Наркамзема і Трактарацэнтра супроць механізацыі ільнаўборкі. Вось што расказвае аб гэтым «Звязда» ў перадавым артыкуле ад 8/VII.

> «Асноўным аб'ектам шкодніцкай практыкі была выбрана ільнацерабілка «Комсамолка». І гэта зусім зразумела. «Комсамолка» рашуча паскарае тэмпы

і паляпшае якасць ільнаўборкі, вызваляючы значную колькасць рабочых рук, што, натуральна, ніяк не ўваходзіла ў планы шкоднікаў.

Дыскрэдытаваць ільнацерабілку, даказаць яе «нерэнтабельнасць», сарваць падрыхтоўку кадраў—вось чаго дабіваліся шкоднікі.

Так нарадзілася контррэвалюцыйная легенда аб «нерэнтабельнасці» ільнацерабілак. У нас, у БССР гэтая легенда пусціла асабліва глыбокія карэнні. Успомнім, як былы кіраўнік вытворчага аддзела Трактарацэнтра Тарасаў (расстраляны па пастанове калегіі АДПУ), адкрыта заяўляў, што «ільнацерабілкі не працавалі і працаваць не будуць».

У мінулым годзе ў БССР па-шкодніцку не было скарыстана 90 проц. усіх завезеных ільнацерабілак. Падрыхтоўка кадраў таксама была сарвана».

І хоць шкоднікі выкрыты і разгромлены, аднак урокі мінулага года радам арганізацый поўнасцю далёка не ўлічаны. Барацьба супроць механізацыі ўборкі, у прыватнасці ільнаўборкі, то тут, то там падымаецца зноў і праводзіцца ў розных формах. Гэта сведчыць аб тым, што ахвосце шкоднікаў яшчэ поўнасцю не выкарчавана, не выкрыта, не выгнана з нашых апаратаў, што яно не

складае зброі і ў сілу свайго класавага становішча не можа скласці зброі і што патрэбна таму выключная бальшэвіцкая насцярожанасць, павышаная класавая пільнасць.

Вось яркі факт. Практыка паказвае, што ільнацерабілка «Комсамолка» ў чатыры разы перавышае вытворчасць працы на ільнаўборцы. Але якая справа, скажам, кіраўнікам Асвейскай МТС да фактаў. Яны па яўным падвучванні класавага ворага складаюць акт, у якім чорным па белым пішуць: «Ільнацерабілкі ў параўнанні з ручным церабленнем з'яўляюцца мала эфектыўнымі ў сельскай гаспадарцы». Дырэктар-жа Мсціслаўскай МТС, хоць такога акта і не склаў, але катэгарычна адмовіўся прыняць 20 ільнацерабілак, занараджаных яму. Аб такіх-жа фактах паведамляе друк у адносінах бульбакапалак.

Трэба арганізаваць рашучы адпор антымеханізатарскім тэндэнцыям. Трэба расчысціць дарогу машыне на ўборачную кампанію, бо нельга забываць таго, што машыны—жняярка, снопавязалка, ільнацерабілка, бульбакапалка—у велізарнай меры вырашаюць поспех уборачнай кампаніі. Аднак, пры гэтым не трэба выпускаць з-пад увагі і таго, што каса і серп, і іншыя прасцейшыя прылады, яшчэ будуць на пэўным

*адрэзку часу адыгрываць вялікую ролю.* Не ігнараваць гэтыя прасцейшыя прылады, а правільна спалучаць іх работу з работай на складаных і паўскладаных уборачных машынах—**пусціць уборачныя машыны поўным ходам і з максімальнай нагрузкай**—гэтае патрабаванне партыі мы абвязаны ажыцьцявіць на справе.

## Як забяспечыць высокую якасць уборкі?

Мы гаварылі вышэй аб тэрмінах і механізацыі ўборкі. Гэта два важнейшых звяны ў барацьбе за высокую якасць уборачных работ. Трэба пры гэтым, аднак, падкрэсліць выключнае значэнне правільнай расстаноўкі рабочай сілы, далейшага замацавання ролі пастаяннай вытворчай брыгады, усямернага павышэння ролі брыгадзіра. Партыя не раз падкрэслівала, што пастаянная вытворчая брыгада павінна быць з самага пачатку і да самага канца палявых работ прымацавана да пэўнага ўчастка і павінна несці адказнасць за гэты ўчастак. Гэты прынцып павінен быць яшчэ больш замацаван у перыяд уборачных работ. Без ажыцьцяўленьня гэтай умовы немагчыма нават і думаць аб высокаякасным правядзеньні ўборкі.

Брыгадзір павінен забяспечыць правільную пастаноўку здзельшчыны і такі ўлік

магчымасць рэзка аддзяліць тых, хто добра-якасна выконвае норму ад тых, хто нормы працы кожнага калгасніка, які даў-бы не выконвае, ударніка ад лодыра. Дробна-буржуазнай ураўнілаўцы, зрываючай здзельшчыну, выгаднай толькі кулаку і лодыру, павінен быць нанесен сакрушальны ўдар.

Брыгадзір павінен забяспечыць такое становішча, каб людзі ў яго брыгадзе загадзя ведалі, якая ім прадстаіць работа, месца работы, пачатак і канец работы і колькі за гэтую работу ім будзе лічыцца працадзён.

Праўленні калгасаў павінны безадкладна арыентовачна збалансаваць сельскагаспадарчы год, каб калгаснікі ведалі, колькі і чаго ім будзе выдавацца за кожны працадзень. Павінен быць вытрыман той прынцып, што брыгада, лепш працаваўшая, раней і без страт скончыўшая работы, атрымлівае пры размеркаванні ўраджая больш, чым другая, горш працаваўшая брыгада.

Усё гэта разам узятае павінна адыграць буйнейшую ролю ў барацьбе са стратамі, у барацьбе за высокія тэмпы і якасць уборачных работ, у павышэнні зацікаўленасці кожнага калгасніка рэзультатамі як сваёй працы, так і працы ўсяго калгаса ў цэлым. Толькі пры гэтых умовах можна будзе пасапраўднаму мабілізаваць усё калгаснае ся-

*лянства на барацьбу за кожнае зерня і колас, за кожную бульбіну, за кожную ільняную саломінку.* Практыка гаворыць аб тым, што такая барацьба неабходна. Вось факт, аб якім расказвае бабруйская газета «Комуніст».

«Па ініцыятыве газеты ў калгасах Паўлавіцкага сельсовета было падлічана, колькі калгаснікі трацяць ад таго, што нязжатыя калоссі не падбіраюцца.

Работнікі рэдакцыі, выехаўшы ў сельсовет, запрапанавалі брыгадзірам пайсці разам на поле, сабраць для прыклада нязжатыя калоссі і падлічыць, якія страты церпяць ад гэтага калгасы.

— Пойдзем падлічым, колькі вы трациіце збожжа,—запрасілі мы брыгадзіра калгаса «Чырвоны баец» т. Кухарава.

— Ну што-ж, пойдзем,—адказаў брыгадзір, загадзя ўпэўнены ў нікчэмнасці задуманай справы.

Пайшлі. Адмерылі ў некаторых мясцох па адным квадратным метры іржышча, дзе ўборка ўжо скончана, сабралі ўсе нязжатыя калосьсі і падлічылі. Потым пачалі асцярожна абмалачваць падабраныя калоссі, занеслі іх у калгас-

ную кладоўку, узважылі. Выявілася, што на полі на **кожны квадратны метр астаецца па 13 г. збожжа.**

— Ну, што скажаш, т. Кухараў? Колькі гэта выходзіць на гектар? Брыгадзір, падумаўшы, адказаў: ды пудоў 7—8.

Калгас засеяў 70 га жыта. Такім чынам, калі не будуць прыняты меры, калгас страціць каля 500 пудоў збожжа. Гэта рэзка адаб'еццца на працаднях. Кожны калгаснік страціць ня менш 300 г збожжа на працадзень».

Не меншае значэнне мае і другое прасцейшае мерапрыемства—зграбанне астаўшыхся на полі калоссеў пасля зноскі і звозкі снапоў у скірты ці гумны. Практыка гаворыць, што пры пакіданні на полі на 1 кв. м плошчы ўсяго толькі двух калоссяў, атрымліваецца страта ў 1 пуд зерня з га, або—калі ўзяць усю плошчу зерневых пасеваў БССР—**больш** $2^1/_4$ млн. пудоў па ўсёй БССР.

Вось чаму такое важнае значэнне мае лозунг: — «ніводнага коласа, пакінутага на полі».

Укажам яшчэ на адно прасцейшае мерапрыемства—прыстасаванне да ўсіх уборачных машын зернеўлавіцеляў і да снопавязалак—снапаносаў. Зернеўлавіцель і снапанос, наладжанне якіх зьяўляецца зусім простай

справай, могуць агарадзіць нас таксама ад немалых страт пры ўборцы.

Два важнейшых мерапрыемствы павінны забяспечыць карэнны пералом у барацьбе са стратамі пры ўборцы бульбы.

Па-першае, абавязковае, масавае скошванне бульбяніка за 5—7 дзён да пачатку ўборкі. Гэтая мера—рашаючая ў барацьбе з бульбяной хваробай—фітаўторыяй. З другога боку, скошаны бульбянік з'яўляецца надзвычай добрай сыравінай для сілосавання.

Па-другое, пасля ўборкі бульбы неабходна правесці баранаванне і пераворванне бульбянішча для паўторнай выбаркі бульбы, якая асталася ў зямлі. **Гэтае мерапрыемства можа вырataваць дзесяткі тысяч тон бульбы.**

Такімі з'яўляюцца важнейшыя і ў той-жа час прасцейшыя мерапрыемствы, ад якіх залежыць зберажэнне дзесяткаў і соцень тысяч тон сельскагаспадарчай прадукцыі.

## Чаму малацьба—важнейшы ўчастак барацьбы за ўраджай

Малацьба—важнейшы ўчастак барацьбы за ўраджай. Ад тэмпаў і якасці малацьбы залежаць тэмпы і якасць выканання калгасамі планаў здачы збожжа дзяржаве.

Трэба яшчэ і яшчэ раз падкрэсліць, па-першае, **недапушчальнасць малацьбы зерневых культур прама з-пад сярпа ці жняяркі.**

Такі «канвеер» нам не патрэбен. Такі «канвеер» лье ваду на млын кулака. Трэба добра запамятаць, што **ўсе збожжавыя культуры падлягаюць абавязковай вязцы ў снапы**, што вязка ў снапы сухога жыта трэба рабіць следам за жнівом (а калі жыта недастаткова прасохла або моцна засмечана, вязку ў снапы трэба рабіць пасля прасушкі, **але ў дзень уборкі)**, што звязанае збожжа неабходна ўкладваць у бабкі, копы, крыжыкі і звозіць у гумны ці месцы для скіртавання. Аб гэтых азбучных ісцінах прыходзіцца напамінаць, таму што забыццё або няведанне іх прыводзіць нярэдка да галавацяпства і адкрывае кулацтву магчымасць весці шкодніцкую падрыўную работу.

Вось факт: у калгасе «Чырвоны араты», Хойніцкага раёна, абмалот праводзіцца ў «канвеерным» парадку. Проста з-пад сярпа і жняяркі—на малатарню. Цэлы дзень жнуць, а назаўтра зранку пачынаюць абмалот. А ў рэзультаце непрасушанае жыта дае высокі процант вільготнасці. Мясцовы загатпункт ледзь прыняў ад гэтага калгаса жыта па чацвертаму сорту, такой нізкай якасці яно было.

Па-другое, трэба дабіцца, каб адначасова з уборкай і скіртаваннем жыта быў арганізован яго абмалот з такім разлікам, каб у першую чаргу выканаць у тэрмін абавязацельствы па здачы збожжа дзяржаве.

*Малатарня—востры ўчастак класавай барацьбы. Вораг крадзецца да малатарні.* Ён разумее, што шкодніцтва на малатарні неадкладна адаб'ецца на ходзе збожжапаставак. Улічыць гэта, быць напагатове, падзесяцерыць пільнасць—вось што нам трэба ў першую чаргу. Нездарма VII пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б пастанавіў:

«На перыяд работы малатарань да кожнай складанай і паўскладанай малатарні (больш 1300) прымацаваць члена партыі або комсамольца для аказання дапамогі работнікам малатарні, усклаўшы таксама на іх адказнасць за поўнае выкананне ўстаноўленай нормы малацьбы, работы і стана самой малатарні.

Прапанаваць РК КП(б)Б, начальнікам палітаддзелаў МТС, РК ЛКСМБ неадкладна распачаць адбор членаў партыі і комсамольцаў з ліка гарадскога і сельскага партыйнага і комсамольскага актыва з разлікам аднаго прымацаванага работніка на кожную паўскладаную малатарню.

Ускласці на прымацаваных да складаных і паўскладаных малатарань работнікаў: кантроль работы, дапамогу працуючаму на малатарнях у сэнсе правільнага абслугоўвання па лініі харчавання, арганізацыі соцспаборніцтва ў

рабоце, правядзенне масава-палітычнай работы, наладжанне сувязі з вакольнымі ячэйкамі па пытанні работы малатарань (урэгуляванне на месцы чарговасці ў малацьбе, расстаноўка сіл і т. д.)».

Да малацілкі, як і да снопавязалкі, жняяркі, бульбакапалкі, ільнацерабілкі трэба паставіць лепшых, правераных, добрасумленных, адданых справе соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі людзей. Уборачныя машыны—адзін з важнейшых аб'ектаў класавай барацьбы ў вёсцы. Вось чаму тут неабходна партыйнае вока і кантроль, завостраная класавая пільнасьць, вось чаму неабходна, каб ва ўсіх працуючых на ўборачных машынах, і асабліва на малатарні, было глыбокае ўсведамленне найвялікшай адказнасці, ускладзенай на іх.

Непасрэдна з абмалотам звязана пытанне аб выдачы натуральных авансаў калгаснікам. Ужо першы вопыт выдачы авансаў сведчыць аб маючых месца фактах скажэння зусім выразных дырэктыў партыі і ўрада па гэтым пытанні. Гэтыя скажэнні заключаюцца ў тым, што дзе-ні-дзе з першага абмалоту, не здаўшы нічога дзяржаве, збожжа сталі раздаваць калгаснікам снапамі (Сіроцінскі раён), што авансы выдаюцца ў размерах, перавышаючых размеры, указаныя ў пастанове

*ЦК УсеКП(б) і СНК СССР)*, што размяркоўваюцца гэтыя авансы па едаках, дварах, на аснове кулацкай ураўнілаўкі, а не па працаднях.

Гэтыя факты сведчаць аб тым, што ў радзе калгасаў мы маем у наяўнасці антыдзяржаўную тэндэнцыю, кулацкія спробы расцягнуць збожжа і тым самым сарваць збожжапастаўкі. Гэтым кулацкім, антыдзяржаўным тэндэнцыям павінен быць нанесен сакрушальны ўдар.

З другога боку, трэба моцна ўдарыць па «лявацкіх» спробах затрымаць выдачу авансаў да поўнага выканання калгасамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай.

Трэба памятаць, што правільнае ажыццяўленне дырэктыў партыі і ўрада ў рабоце па выдачы авансаў з'яўляецца буйнейшым стымулам у барацьбе за павышэнне тэмпаў уборкі і сельгаспаставак. Трэба памятаць, што правільнае авансаванне калгаснікаў з'яўляецца магутным фактарам соцыялістычнага перавыхавання калгаснага сялянства.

## Як арганізаваць ахову ўраджая

Ахова ўраджая—важнейшае звяно ў барацьбе з класавым ворагам, у барацьбе са стратамі, у барацьбе за соцыялістычную ўласнасць, за далейшае ўмацаванне перамогі калгаснага ладу ў вёсцы.

Соцыялістычная ўласнасць свяшчэнна і не-

датыкальна. Так агаласіла Совецкая ўлада. Але соцыялістычную ўласнасць трэба ўмець ахоўваць, трэба ўмець берагчы. Да соцыялістычнай уласнасці цягнуцца рукі шкоднікаў, кулакоў, злодзеяў, усіх тых, хто хоча або пажывіцца за кошт арцельнай працы, або зніштожыць плады гэтай працы.

Як-жа арганізаваць ахову соцыялістычнага ўраджая?

Пастанова ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 24-V ускладае непасрэдна ахову ўраджая на палявую калгасную брыгаду. Яна выдзяляе з свайго асяроддзя аб'ездчыкаў палёў, вартаўнікоў, возчыкаў. У брыгадзе таму перш за ўсё трэба здолець падняць ярасць калгаснікаў супроць спроб усякіх антыграмадскіх элементаў расцягнуць, раскрасці або спаліць калгасны ўраджай. Трэба шырока раз'ясніць масам калгаснага сялянства, што поўнае захаванне ўсяго ўраджая з'яўляецца задачай кожнага калгасніка.

Але адной масавай, раз'ясняльнай работы мала. Неабходна ўжыць цэлы рад такіх мерапрыемстваў, якія-б забяспечылі цэласць ураджая.

Перш за ўсё неабходзен стражэйшы ўлік ураджая на ўсіх стадыях яго ўборкі. Для гэтага патрэбна, каб кожны дзень па кожнай убіраемай культуры ўлічваліся зжатыя плошчы і колькасць нажатага збожжа. Гэта за-

бяспечыць кантроль над вартаўнікамі і аб'ездчыкамі палёў і над працэсам перавозкі зерневых культур на малатарні.

Улік ураджая пры малацьбе павінен весці ў калгасах, абслугоўваемых МТС, вагаўшчык, выдзелены дырэктарам і начальнікам палітаддзелу МТС, у калггасах, не абслугоўваемых МТС, вагаўшчык, выдзелены праўленнем калгаса і зацверджаны райземаддзелам. Вагаўшчыкамі павінны выдзяляцца самыя лепшыя калгаснікі, комсамольцы і комуністы.

Задача вагаўшчыка: весці дакладны ўлік збожжа, атрыманага ад абмалота, і адпраўляць яго на здатачны пункт або ў калгасную кладовую. На месцы назначэння збожжа павінна ўзважвацца і колькасць яго адзначацца ў накладной. У выпадку разыходжання лічбаў адпраўленага і прынятага збожжа, трэба складаць акт і прыцягваць віноўных да судовай адказнасці, прычым возчык павінен быць неадкладна адстаранён ад работы.

Якасць работы малатарні трэба правяраць некалькі разоў на дзень. Трэба прагледаць салому, ці няма ў ёй нявымалачанага зерня, ці няма зерня ў мякіне і т. д.

Таксама моцна і па-дзеласому павінна быць пастаўлена ахова ўраджая бульбы. У пастановах пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б мы маем

па гэтым пытанні наступнае, зусім яснае і выразнае ўказанне:

> «Для захавання ўраджая бульбы ад пакражы, абавязаць усе калгасы і саўгасы з момонта пачатку выспявання бульбы забяспечыць ахову пасеваў бульбы, у часе капання бульбы арганізаваць штодзеннае ўзважванне яе, не дапускаючы пакідання нанач выкапанай і няўзважнай бульбы. Пры адсутнасці вагі практыкаваць прыстасаванне загадзя загатоўленых і ўзважаных на вазе скрынь, арганізаваўшы ўлік і запіс атрыманай бульбы».

Задача заключаецца толькі ў тым, каб цалкам і поўнасцю гэтыя ўказанні партыі выканаць.

Побач з гэтым трэба забяспечыць моцную і надзейную проціпажарную ахову. У кожным калгасе, саўгасе і насялёным пункце трэба праверыць становішча проціпажарнага інвентара, гатоўнасць пажарных каманд, забяспечыць бязупынныя дзяжурствы праверaных людзей ля пажарных машын. Словам, павінны быць прыняты ўсе меры да таго, каб выпадковы пажар або «чырвоны певень», пушчаны рукой злаўмыснікаў, не пажыраў пладоў упорнай і напружанай работы рабочых саўгасаў, калгаснага сялянства і працоўных аднаасобнікаў.

## *Якімі з'яўляюцца асаблівасці загатовак бягучага года*

**Асноўная асаблівасць заключаецца ў тым, што мы перайшлі ў гэтым годзе ад кантрактацыйных дагавароў у загатоўках збожжа і бульбы да цвёрдай абавязковай здачы (продажа) дзяржаве гэтых культур па закону.**

На падставе гэтага закона яшчэ да пачатку веснавой сяўбы трэба і можна было вызначыць размеры здачы збожжа і бульбы дзяржаве кожным калгасам і аднаасобнай гаспадаркай, і такім чынам, загадзя сказаць калгаснікам і працоўным аднаасобнікам, што ўся колькасць збожжа і бульбы, якая будзе імі атрымана ад ураджая, за выключэннем той часткі, якая вызначана да здачы дзяржаве, астаецца ў поўным распараджэнні калгаса, калгаснікаў і аднаасобнікаў.

**Абавязацельствам па пастаўцы збожжа і бульбы дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гападаркамі надана сіла падатка.** Гэта значыць, што кожны калгас, кожная аднаасобная гаспадарка абавязаны здаць дзяржаве тую колькасць збожжа і бульбы, якая гэтымі абавязацельствамі для кожнага з іх загадзя вызначана па закону і павінна быць выканана кожным калгасам і кожным аднаасобнікам **пры ўсякіх умовах.**

Новая сістэма паставак збожжа і бульбы з'яўляецца простай і зразумелай для кожна-

гэта не штосці чужое, а сваё, што інтарэсы дзяржавы не процістаяць інтарэсам калгаснікаў і калгасаў, што першачарговая здача збожжа дзяржаве ёсць прылада ўмацавання калгаснага ладу і павышэння матэрыяльнага дабрабыта калгаснікаў» (П о с т ы ш а ў).

У бязлітаснай барацьбе з кулацкім сабатажам, з агентурай класавага ворага ў радох партыі—правымі і «левымі» апартуністамі, у барацьбе за соцыялістычнае перавыхаванне калгаснікаў трэба **забяспечыць поўнасцю і ў тэрмін пастаўку збожжа і бульбы дзяржаве**—выкананне гэтай першай запаведзі.

Работа прадстаіць велізарная.

Трэба арганізаваць справу такім чынам, каб збожжа непасрэдна з-пад малатарні, збожжа лепшай якасці, збожжа найвышэйшых кандыцый здавалася без усякай затрымкі дзяржаве.

Трэба арганізаваць справу так, каб выкапаная бульба, перабраная і прасушаная, бульба лепшай якасці непасрэдна з поля адпраўлялася на загатоўчыя пункты.

Лепшую прадукцыю—пролетарскай дзяржаве. З першых абмалотаў, першай копкай забяспечыць поўнае выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай, у строга вызначаны тэрмін.

Вільготнае засмечанае збожжа, брудная неачышчаная ад зямлі, вільготная бульба не павінны залічвацца ў загатоўкі, а спроба та-

кую прадукцыю ўсучыць пролетарскай дзяржаве павінна расцэньвацца, як імкненне сарваць загатоўкі. Так абавязаны мы ставіць пытанне.

Выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай—першая запаведзь. Іменна таму да поўнага выканання гадавога рэспубліканскага плана пастаўкі збожжа і бульбы партыя і ўрад забаранілі калгасны і індывідуальны гандаль гэтымі прадуктамі. Іменна таму ўрад забараніў ствараць якія-б там ні было фонды да поўнага выканання плана пастаўкі дзяржаве. Толькі пасля выканання гэтых планаў, толькі пасля здачы збожжа ў парадку натураплаты работы МТС і звароту пазычак калгасы могуць распачаць засыпку насенных фондаў для азімай і яравой сяўбы, стварэнне страхавых і насенных фондаў у размеры ад 10 да 15 проц. гадавой патрэбнасці ў насенні (у залежнсьці ад ураджая) і ўтварэнне фуражных фондаў у размерах гадавой патрэбнасці аграмаджанай жывёлы. Ніякія іншыя фонды, апрача ўказаных вышэй, не павінны ствараціца. Увесь ураджай, які астаецца ў калгасе пасля выканання ўсіх указаных вышэй абавязацельстваў і ўтварэння ўстаноўленых фондаў, павінен быць размяркован поўнасцю паміж калгаснікамі па працаднях. Аднак, пры гэтым нельга ўпускаць з-пад увагі пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 18/VIII 1933 г., згодна якой

«калі самі калгасы пажадаюць, яны маюць права пастановай агульнага схода калгаса з удзелам не менш $^{2}/_{3}$ калгаснікаў ствараць і іншыя фонды ў калгасах, як напрыклад: фонд на павялічэнне непадзельных капіталаў у калгасах, а таксама фонд для аказання дапамогі інвалідам, сем'ям чырвонаармейцаў, на ўтрыманне дзіцячых ясляў.

Другая асаблівасць загатовак гэтага года заключаецца ў тым, што ў мінулыя гады «першыя 2-3 месяца збожжазагатовак—ліпень-жнівень-верасень—праходзілі ўпустую, на так званую «раскачку», а ў наступныя месяцы прабавалі нагнаць упушчанае ў парадку ўжывання рэпрэсій. У збожжазагатоўках-жа гэтага года рашаючымі павінны быць першыя тры месяцы: ліпень-жнівень-верасень. Вопыт збожжазагатовак гаворыць, што іменна першыя тры месяцы вырашаюць лёс загатовак, бо тое, што ўпушчана ў гэтыя месяцы, не можа быць адноўлена на працягу ўсяго загатоўчага года. Гэта значыць, што пастаўка збожжа дзяржаве павінна быць разгорнута з першых-жа дзён абмалота, а калгасны гандаль павінен быць прыпынен з першых-жа дзён збожжапаставак» (з пастановы ЦК УсеКП(б)).

Трэба папярэдзіць яшчэ супроць адной памылкі, якая часта паўтаралася ў мінулыя гады, калі многія мясцовыя арганізацыі клапоцячыся аб ахове збожжа ад раскрадання,

выпусцілі з-пад увагі, што **іменна выкананне плана зэгатовак—асноўны сродак захавання ў цэласці ўсяго ўраджая.** Трэба зразумець, што чым хутчэй калгас выканае свае абавязацельствы па здачы збожжа і бульбы дзяржаве, тым лепш ён можа забяспечыць захаванасць усяго таго збожжа, якое астанецца ў калгасе, тым менш прастору астанецца кулацкім і шкодніцкім элементам для іх зладзейскіх махінацый.

Трэцяя асаблівасць загатовак бягучага года заключаецца ў тым, што «ў адрозненне ад мінулых гадоў пастаўка збожжа дзяржаве ў гэтым годзе будзе праводзіцца не па зменных планах, а па цвёрдых нязменных нормах, устаноўленых законам, што павінна ўмацаваць становішча калгасаў, павінна стварыць устойлівасць у гаспадарцы і забяспечыць калгасу і аднаасобніку магчымасць цвёрда разлічыць свае даходы. Гэта значыць, што ніякія сустрэчныя планы па здачы збожжа ў далейшым не павінны быць дапушчаны ні пры якіх умовах» (з пастановы ЦК УсеКП(б)).

Закон аб абавязковых пастаўках збожжа і бульбы цвёрды, непарушны закон. Ніякія ўхілы ад абавязацельстваў па пастаўцы ні па размерах, ні па тэрмінах не могуць і не павінны быць дапушчаны. Трэба ў самым пачатку кампаніі арганізаваць пільнае назіранне за выкананнем кожнай гаспадаркай

сваіх абавязацельстваў па здачы збожжа і бульбы дзяржаве і адразу прымаць усе неабходныя меры, у тым ліку і меры рэпрэсій, прадугледжаныя законам ад 19/I, у адносінах да тых гаспадарак, якія будуць пад тым ці іншым выглядам ухіляцца ад выканання сваіх абавязацельстваў. Спецыяльна трэба падкрэсліць неабходнасць узяцця пад асобы кантроль і назіранне за ходам выканання абавязацельстваў па здачы збожжа кулацка-заможнымі гаспадаркамі, атрымаўшымі цвёрдае заданне. Трэба дабіцца, каб ніводная кулацкая гаспадарка не змагла скрыць і растранжырыць збожжа. Старшыня і члены сельскіх советаў павінны памятаць, што яны персанальна адказваюць за выкананне абавязацельстваў кулацкімі і заможнымі гаспадаркамі.

З другога боку, таксама-ж строга трэба караць і тых, хто прабуе хоць у малейшай меры змяніць размеры і нормы здачы збожжа і бульбы дзяржаве, прадугледжаныя законам для калгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў. **Той, хто прабуе гэтыя нормы змяніць, выступае супроць закона, дыскрэдытуе закон.**

Пастанова ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 20/VII 1933 г. прама гаворыць, што «асобы, віноўныя ў дачы сустрэчных планаў, будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасці».

У гэтых адносінах надзвычай павучальна

гісторыя аб злачынных дзеяннях кіраўнікоў Скадоўскага раёна, Адэскай вобласці. Сутнасць гэтай гісторыі наступная: паасобныя калгасы Скадоўскага раёна звярнуліся да абласных арганізацый са скаргамі на тое, што раённыя арганізацыі далі гэтым калгасам звыш вызначаных па закону сустрэчныя планы збожжапаставак. За такое злачыннае нарушэнне законаў аб абавязковай паставцы збожжа дзяржаве, за гэтую кулацкую палітыку, за дыскрэдытацыю важнейшай пастановы партыі і ўрада сакратар Скадоўскага райкома партыі і старшыня райвыканкома выключаны з партыі, зняты з работы і аддадзены пад суд.

Цэнтральны орган партыі «Правда», расказваючы ў перадавым артыкуле «Закон об обязательных зернопоставках—незыблемый закон», аб злачынных дзеяннях кіраўнікоў Скадоўскага раёна ставіць так пытанне:

«Але... могуць запытаць: а калі ў калгасах ураджай далёка вышэй сярэдняга, далёка вышэй усякіх чаканняў, ці нельга на гэтай падставе і для калгасаў павысіць цвёрдыя нормы збожжапаставак, устаноўленыя законам?

Не, нельга, ні ў якім выпадку, ні пад якім выглядам.

Усякі, хто дазволіць сабе нарушыць закон ад 19/I 1933 г. «Аб абавязковай паставцы збожжа дзяржаве калгасамі і адна-

асобнымі гаспадаркамі» і пастанову СНК і ЦК ад 20/VI, г. зн. хто дазволіць сабе павялічыць хоць-бы для аднаго калгаса размеры збожжаздачы, устаноўленыя гэтым законам, хто дасць хоць-бы аднаму калгасу сустрэчны план збожжапаставак звыш законнага абавязацельства, устаноўленага для данага калгаса,—з **тым будзе зроблена таксама, як паступілі адэскія абласныя арганізацыі з кіраўнікамі Складоўскага раёна...**

Ці лічыліся ўрад і ЦК партыі з магчымасцю добрага ўраджая, выдаючы закон ад 19/I?

«Не толькі лічыліся, але і сам **закон быў выдан для таго, каб зацікавіць усю калгасную масу і працоўных аднаасобнікаў у барацьбе** за павышэнне ўраджайнасці, у барацьбе за дасягненне высокіх ураджаяў». І «Праўда» заканчвае свой перадавы артыкул так:

**«Закон ад 19 студзеня аб абавязковай пастаўцы збожжа дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі быў і астаецца цвёрдым, непарушным, бясспрэчным законам як для калгасаў і аднаасобнікаў, так і для ўсіх без выключэння органаў улады».**

У агульным паступленні збожжа дзяржаве ў гэтым годзе адной з асноўных крыніц будзе паступленне натураплаты ад МТС. У адрозненне ад мінулых гадоў, калі работа

МТС у калгасах аплачвалася грашыма, ў гэтым годзе калгасы аплачваюць МТС за іх работу натурай. Змяненне сістэмы аплаты калгасамі работы МТС мае вялікае значэнне як для дзяржавы, так і для калгасаў. Справа ў тым, што чым лепш працуюць МТС, тым больш атрымлівае яна збожжа ў аплату сваёй работы. З другога боку, чым лепш працуе МТС, тым вышэй ураджай і, значыцца, даходы калгаса.

У бягучым годзе дзяржава па ўсім Саюзе павінна атрымаць ад калгасаў за работу ў іх МТС звыш 100 млн. пудоў збожжа. Не гледзячы на гэта, многімі арганізацыямі гэтая новая і важная крыніца паступлення збожжа дзяржаве недаацэньваецца. Горш таго, збожжапастаўкі і натураплата, хоць гэтыя два віды паступленняў рэзка адрозніваюцца адзін ад аднаго, змешваюцца ў адну кучу. Сапраўды-ж збожжапастаўкі—гэта пастаўкі збожжа дзяржаве, маючыя сілу падатка, тады як натураплата—гэта аплата паслуг, якія дзяржава дае калгасам праз МТС.

Змяшэнне натураплаты і збожжапаставак у адну кучу—кулацкая палітыка. Гэтым манеўрам кулакі і іх агенты прабуюць настроіць сялянства супроць збожжапаставак, гаворачы, што яны вялікія. Трэба раз'ясніць

сялянству розніцу паміж гэтымі двума відамі паступлення збожжа. Трэба выкрыць і сакрушыць гэты новы кулацкі манеўр. Трэба падняць ярасць калгаснікаў супроць гэтай кулацкай спробы пасварыць калгаснае сялянства з пролетарскай дзяржавай і забяспечыць поўнае і дакладнае выкананне дагавароў МТС з калгасамі, дагавароў, якія зацверджаны СНК СССР і якім тым самым надана сіла закона.

Чацвертай асаблівасцю загатовак гэтага года з'яўляецца тое, што «мы значна ўмацавалі нашы пазыцыі на сяле стварэннем палітаддзелаў МТС і саўгасаў і ўкамплектаваннем гэтых палітаддзелаў высокакваліфікаванымі, вытрыманымі, праверанымі партыйна-палітычнымі кадрамі. Палітаддзелы МТС—гэта найвялікшая, магутная сіла ў нашай барацьбе за далейшы ўздым калгаснай сельскай гаспадаркі» (Постышаў).

Калі ўлічыць гэта, калі ўлічыць, што мы за апошні год значна расшырылі механічную базу сельскай гаспадаркі, што мы маем значны рост зацікаўленасці калгаснікаў у хутчэйшым і лепшым скончэнні сельскагаспадарчага года, што мы нанеслі рад новых сакрушальных удараў па класавым ворагу (раскрыццё шкодніцтва ў органах Наркамзема і Трактарацэнтра і т. д.)., то ўвогуле мы маем цяпер значна больш высокую мабі-

лізаванасць усёй КП(б)Б, маем усе аб'ектыўныя ўмовы для таго, каб па выкананні загатовак у бягучым годзе БССР вышла ў рады перадавых рэспублік.

Загатоўкі ў бягучым годзе будуць праходзіць ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы. Нельга забываць, па-першае, таго, што шкодніцкая работа далёка не ўся раскрыта і выкарчавана, па-другое, нельга ўпускаць з-пад увагі і таго, што кулак вядзе і будзе ўзмацняць сваю агітацыю супроць новага закона аб абавязковых пастаўках дзяржаве збожжа і бульбы, будзе старацца дыскрэдытаваць гэты закон у вачах шырокіх мас калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, што з гэтай мэтай ён скарыстае кожны промах, кожны недахоп у калгасным вытворстве.

Па-трэцяе, трэба памятаць, што «абвостраная класавая барацьба вакол здачы збожжа дзяржаве немінуча выклікае рэцыдывы апартуністычнага слабадушша, бесхарактарнасці і збянтэжанасці. Мы павінны прадбачыць вылазкі апартуністычных элементаў і ворагаў з партбілетамі, якія пры адсутнасці адпаведнага адпора могуць і ў гэтым годзе паспрабаваць сабатаваць і арганізаваць сабатаж першачарговай здачы збожжа дзяржаве» (Постышаў).

Усё гэта павінна прымусіць нас мацней, лепш, дружней арганізаваць загатоўкі ў бя-

гучым годзе, вышэй падняць класавую пільнасць, па-большэвіцку, рашуча і бязлітасна біць па шкодніку, кулаку і яго агентуры.

Мы маем усё неабходнае для таго, каб з чэсцю вытрымаць той экзамен, якім з'яўляюцца для ўсёй КП(б)Б загатоўкі бягучага года. Мы маем усё неабходнае для таго, каб зрабіць гэты год, як гаварыў т. Сталін,— апошнім годам труднасцяй.

> «Зрабіць гэты год апошнім годам труднасцяй,—гаварыў у ліпені 1933 г. на пленуме ЦК КП(б)Б т. Постышаў,— гэта такая задача, такая перспектыва, якая выклікае і не можа не выклікаць у кожнага большэвіка, у кожнага перадавіка—беспартыйнага актывіста, рабочага і калгасніка—новы прыліў энергіі, бадзёрасці ў барацьбе, упеўненасці ў перамозе, гатоўнасці пакласці ўсе свае сілы на вырашэнне гэтай задачы з тым, каб у далейшым рушыць уперад з яшчэ большымі поспехамі, з меншымі труднасцямі, больш высокімі тэмпамі, уперад, да канчатковай і поўнай перамогі».

## Чаму недапушчальна ігнараванне працоўных аднаасобнікаў

Толькі закаранелы апартуніст стаіць на пазіцыях ігнаравання працоўных аднаасобнікаў. Толькі чалавек, які не мае нічога

агульнага з нашай партыяй, нічога не разумее ў ленінізме, можа лічыць, што партыі няма ніякай справы да тых мільёнаў аднаасобнікаў, якія сумленнай працай здабываюць свой хлеб, але якія па тых ці іншых прычынах пакуль што не ўступаюць у калгас.

**Бедняк і серадняк-аднаасобнік**, які не разбэсціўся і не пайшоў у спекуляцыю, які не вядзе барацьбы разам з кулацтвам супроць калгаснага руху,—**ён зусім не наш вораг.** Толькі закаранелы «лявак» можа ставіць пытанне, што ўсякі, хто пакуль што яшчэ не ўвайшоў у калгас—вораг калгасаў.

Наша партыя заўсёды самым рашучым чынам вяла і вядзе барацьбу супроць такіх поглядаў. Яна лічыла і лічыць сваім абавязкам дапамагчы гэтым сумленным аднаасобнікам зразумець выгады калгаса, дапамагчы зразумець, што калгасны шлях—адзіна правільны шлях выхада з кулацкай кабалы, галечы і цемры, дапамагчы стаць на гэты шлях. Задача партыі і заключаецца ў тым, каб на аснове далейшай барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, за ажыццяўленне лёзунга т. Сталіна «зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі» ўцягнуць гэтыя мільёны сумленных працоўных аднаасобнікаў у калгасы.

Нездарма т. Сталін на І Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў гаварыў:

«Я не супроць таго, каб прымалі ў калгасы з разборам, але я супроць таго, каб закрывалі шлях у калгасы ўсім аднаасобнікам, без разбора. Гэта не наша, не бальшэвіцкая палітыка».

Разам з тым задача партыі заключаецца ў тым, каб дапамагчы сумленным працоўным аднаасобнікам лепш арганізаваць сваю працу, больш быстра і паспяхова правесці ўборку, поўнасцю і ў тэрмін выканаць свае абавязацельствы перад дзяржавай.

Дрэнны той сельскі ссвет, дрэнная тая партыйная ячэйка, якія гэтымі пытаннямі не займаюцца. Трэба зразумець, што там, дзе мы не вядзем работы сярод працоўных аднаасобнікаў, там работу падрыўную, шкодніцкую, контррэвалюцыйную вядзе класавы вораг.

У гэтым сэнсе выключна цікава гутарка т. Гікало са старшынёй Трускага сельсавета, Копыльскага раёна т. Маеўскім на Ўсебеларускай радыёнарадзе партыйнага рэспубліканскага актыва.

Тав. **Гікало** запытвае:—Скажыце, т. Маеўскі, як у вас абстаіць справа з абмалотам у аднаасобным сэктары?

Тав. **Маеўскі** адказвае:—Аднаасобнікі разбіты на дзесяцідворкі, да іх прымацаваны кіраўнікі з ліку сельсавецкага актыва, якія будуць праводзіць там работу.

Гікало—Гэта добра, але ці ёсць конныя малатарні для аднаасобнага сэктара?

Маеўскі—Ёсць дзве.

Гікало—Адрамантаваныя?

Маеўскі—Так, адрамантаваныя. Але мы думаем выкарыстаць іх для абмалоту ў калгасах.

Гікало—А чаму вам не арганізаваць аднаасобнікаў, каб яны малацілі на малатарнях?

Маеўскі—Так мы пастанавілі на пленуме сельсавета, лічылі, што аднаасобнікі не будуць малаціць на малатарнях, а цапамі.

Гікало—Як-жа гэта ў вас вышла? Колькі ў вас аднаасобнікаў?

Маеўскі—273.

Гікало—Значыць, 27 дзесяцідворак. Чаму-ж вы не маглі сабраць кіраўнікоў дзесяцідворак, пагутарыць з імі, як яны мяркуюць арганізаваць абмалот і дабіцца выкарыстання малатарань.

І далей т. Гікало гаворыць:

> «Вы самі павінны асабіста сабраць кіраўнікоў дзесяцідворак і з імі пагутарыць, як арганізаваць абмалот у аднаасобным сектары **не пазней, чым у калгасах.** А ў вас выходзіць так: аднаасобнік няхай, моў, працуе цэпам, а малатарні аддамо калгасам. Гэта няправільна».

Гэтая-ж мысль—мысль аб тым, што мы, большэвікі, абавязаны арганізаваць працоўных аднаасобнікаў, абавязаны дапамагчы ім хутчэй і лепш справіцца з уборачнай кампаніяй і выкананнем імі сваіх абавязацельстваў па здачы пролетарскай дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі—чырвонай ніткай праходзіць у рашэннях VII Аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б.

Вось, напрыклад, адно такое месца з гэтых рашэнняў:

> «Для арганізацыі дапамогі аднаасобнікам у хутчэйшым абмалоце пры сельсоветах і калгасах павінны быць арганізаваны пункты абмалота аднаасобнікам за невялікую плату. РК і РВК павінны вылучыць для гэтай мэты частку конных малатарань і арганізаваць заключэнне дагавароў паміж калгаснікамі і дзесяцідворкамі».

Таксама канкрэтна і аперацыйна, па-дзеласвому павінны быць пастаўлены кіраўніцтва і дапамога аднаасобнікам на ўсіх астатніх стадыях уборачнай і загатоўчай кампаніі. У прыватнасці павінна быць аказана практычная дапамога кожнай у паасобку дзесяцідворцы ў складанні падрабязнага сутачнага плана ўброкі, абмалота і здачы збожжа дзяржаве, у правільным скарыстанні наяўнага

сельгасінвентара, транспарта і коняй, наладжванні бесперабойнай вывазкі снапоў з поля калектыўнага абмалота і адвоза збожжа на прыёмачныя пункты, арганізацыі соцспаборніцтва паміж дзесяцідворкамі і паасобнымі аднаасобнікамі на лепшае правядзенне ўборкі, абмалота і датэрміновай здачы збожжа дзяржаве.

Гэтымі сваімі рашэннямі партыя лішні раз падкрэслівае недапушчальнасць ігнаравання працоўных аднаасобнікаў, неабходнасць наладзіць правільныя ўзаемаадносіны паміж імі і калгаснікамі і неабходнасць **кіраваць** працэсамі сельскай гаспадаркі ў сёнешніх аднаасобнікаў—заўтрашніх калгаснікаў.

Гэта тым больш важна, што нельга ні ў якім разе забываць таго факта, што ў сельскай гаспадарцы БССР аднаасобная гаспадарка займае яшчэ значнае месца.

---

Блок-пот № 20—21.

# ЗМЕСТ

